Published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN
ASSOCIATION, inc., U. S. A.
and BYELORUSSIAN
CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE ¢ 50

Post Address:
BIELARUS
P. O. Box 109
Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD

Год XVIII. № 138 | Кастрычнік 1968. | NEW YORK — TORONTO | October 1968. | Vol. XVIII. № 138

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ ІЗНОЎ ПАД АБСТРЭЛАМ

Пасьля таго, калі супраць аповесьці Васіля Быкава „Мёртвым не баліць" і супраць ейнага аўтара паднялася была ў пачатку 1966 году цэлая бура войстрых зьвінавачваньняў з боку партыйных і вайсковых колаў ды дагматычнае крытыкі, Васіль Быкаў на працягу цэлых трох год траха нічога ня друкаваў. А перад гэтым, пачаўшы ад 1960 году, калі пісьменьнік стаўся сыстэматычна актыўным у літаратуры, ён, апрача дробных апавяданьняў, як правіла, друкаваў кажнага году й адну вялікую аповесьць. Затым зьяўленьне ў сёлетнім травенскім нумары „Маладосьці" ягонае новае аповесьці „Праклятая вышыня" не магло ня выклікаць павышанае цікавасьці. Кажнага мусіла інтрыгаваць пытаньне, ці пісьменьнік прыняў тэндэнцыйныя напады на яго за аповесьць „Мёртвым не баліць" і ўзяў на іх увагу ў сваёй новай аповесьці, ці й надалей застаўся гэткім-жа бескампрамісным змагаром за праўду, справядлівасьць і гуманістычную ідэю чалавечнасьці, якім ён быў у сваіх ранейшых творах.

Аповесьць „Праклятая вышыня" дае поўны адказ на гэтае пытаньне: у непахіснай вернасьці сваім прынцыпам Васіль Быкаў і ў новай сваёй аповесьці застаўся тым, кім ён быў і раней. Праўда, у сёлетняй сваёй аповесьці, відаць, каб усьцерагчыся лішніх зьвінавачваньняў, пісьменьнік часамі і з выразнай шкодай для мастацкай якасьці твору, намагаецца зьмякчаць і нэўтралізаваць канфлікт між добрым і благім, даваць неабаснаваныя псыхалягічна ходы апавяданьню, дапускаць недасказаныя й навет супярэчлівыя думкі

А ў надрукаваным таксама ў траўні сёлета ў маскоўскім часапісе „Навый Мир" расейскім перакладзе гэтае аповесьці, зробленым самім аўтарам, былі ўведзеныя значныя скарачэньні асабліва войстрых мясьцінаў, што маглі-б выклікаць няпрыхільную рэакцыю партыйнае крытыкі. І калі гэны травенскі нумар часапісу „Новый Мир" выйшаў аж у жніўні, дык можна падумаць, што прычынаю гэтага трохмесячнага спазьненьня была валакіта ў справе аповесьці беларускага аўтара.

Усё гэта не ўратавала, аднак, Васіля Быкава. Абласная газэта „Мінская праўда" надрукавала нядаўна артыкул пра аповесьць Быкава прадстаўніка вайсковых колаў і ўдзельніка апошняе вайны І. Агеева пад вымоўным загалоўкам „Праклятая вышыня" — „Прапашчая рота" — прыкры твор", якую орган ЦК КПБ „Зьвязда" перадрукаваў у сваім нумары за 28 верасьня. Гэта паказвае, што артыкул гэны калі й ня быў інсьпіраваны партыйнымі коламі, у што цяжка паверыць, дык у кажным выпадку гэтымі коламі ён апрабаваны.

Уж адно характар зьвінавачаньняў у артыкуле І. Агеева нагэтулькі тэндэнцыйны, аднабаковы й навет прымітыўны, што прыпамінае ведамыя напады на беларускіх пісьменьнікаў гэтак званае вульгарна-сацыялягічнае крытыкі часоў сталінскіх пагромаў і, як такі, будучы паўтораным сяньня ў дачыненьні да аднаго з найвыдатнейшых беларускіх пісьменьнікаў, ня можа ня выклікаць паважнай трывогі. І. Агееў у сваім артыкуле піша: „У творы пануе атмасфэра глухой безнадзейнасьці, пасыўнай скоранасьці лёсу. Прычым, гэта падкрэсьліваецца ня толькі разуманастроем гэрояў, але навет самім малюнкам прыроды — гэтым шэрым прыдаўленым небам; полем, што „злавесна чарнела ад навіслай над ім цемрадзі, у якой таілася нейкая нязнаная, загадкавая і таму асабліва страшная небясьпека"; вышынёй, якая грозна цямнела наперадзе ў сьцятай маўклівасьці . . ." Значыцца, праступак Васіля Быкава ўжо ў тым, што ён даў змрочны малюнак прыроды напачатку твору. Тымчасам, гэта мастацкае заданьне пісьменьніка, каб у ягоным творы зьявы прыроды тварылі настраёвы фон, сугучны да падзеяў, што на гэтым фоне разгортаюцца. Гэта ў ніякім выпадку ня ідэйная, а чыста мастацкая рыса твору.

Галоўны сюжэтны вузёл аповесьці „Праклятая вышыня" пабудаваны, як часта ў Быкава, на войстрым канфлікце паміж людзкім сумленьнем і вайсковым абавязкам, прадыктаваным бяздушным загадам. Старшы лейтэнант нампаліт Грыневіч у ваповесьці — увасабленьне гэтага апошняга прынцыпу. Для яго, як ён кажа, „загад не абмяркоўваецца, загад выконваецца" навет у тым выпадку, калі непрадбачаная сытуацыя ня можа зьмясьціцца ў межах гэтага загаду. Затое камандзер роты капітан Ананьеў прытрымліваецца іншага прынцыпу. „Для адных загад — каманда па калёне: прыняў, перадаў далей. Для тых-жа, каму яго выконваць, — ён робіцца пытаньнем жыцьця і сьмерці" — кажа Ананьеў. І калі перад Ананьевам станула цяжкая дылема: або даць загад страляць па Немцу й тым самым па сваім байцу Чумаку, якога Немцы схапілі ў палон, або выменяць яго на ўзятага ў палон нямецкага обэрфэльдфэбэля, Ананьеў выбірае гэтае апошняе.

Гэты паступак Ананьева ў дачыненьні да свайго байца й выклікае страшнае абурэньне нампаліта Грыневіча, што шмат у чым прыпамінае Сахно-Гарбацюка з аповесьці „Мёртвым не баліць", а таксама ня меншае абурэньне й рэцэнзэнта аповесьці.

І. Агееў дакарае Быкава таксама ў тым, што ў савецкіх байцоў, якія атакуюць „праклятую вышыню", як ён кажа літаральна, „нічога за душой ня было: ні патрыятызму, ні веры ў перамогу, ні нянавісьці да ворага. Выходзіць, — кажа Агееў, — што іх гнаў наперад толькі страх, падмацаваны крута пасоленым камандзірскім выкрыкам: „Уперад, такой тваёй матары!". Але-ж нічога падобнага! У недабіткаў роты Ананьева ўсё гэта ёсьць. Ёсьць і патрыятызм, і нянавісьць да ворага, а страху ў іх якраз найменш. Адно што гэтыя якасьці натуральным парадкам выяўляюцца ў іхным захоўваньні, дзеяньні і навет у гутарцы, а не ў патэтычных дэклямацыях і штучных позах. Пэўне-ж, у гэтых людзей няма літаратурнага гура-патрыятызму й супэр-гэраізму, усе яны звычайныя людзі, узятыя з жыцьця, магчыма дакладныя патрэты аўтаравых сяброў на фроньце. І гэта не загана, а мастацкае дасягненьне Васіля Быкава.

У канцы свайго артыкулу Агееў піша: „Вядома, вайна — настолькі вялікая стыхія, што няма нічога такога, чаго-б не магло на ёй здарыцца". Але пісьменьнік, паводля Агеева, ня мае права пісаць пра ўсё тое, чаго-б не магло на вайне ня здарыцца або й здаралася ў запраўднасьці, а павінен падаваць адно тое, што адказвае афіцыйнай ацэне партыяй мінулае вайны. У гэтым уся квінтэсэнцыя артыкулу Агеева.

У сваім інтэрвю, дадзеным паэту Анатолю Вярцінскаму ў 1964 годзе, Васіль Быкаў казаў: „Абавязак кожнага сьветкі і ўдзельніка ў мінулай вайны — гаварыць толькі праўду, якой-бы горкай яна ні здавалася, будучы пры гэтым бязьлітасным у сваёй шчырасьці". У гэтых словах Васіль Быкаў сфармуляваў асноўны прынцып кажнага запраўднага пісьменьніка, прынцып, які датычыць ня толькі ваеннае, але і ўсякае іншае тэматыкі літаратурнага твору. А ў ваповесьці „Мёртвым не баліць", асэнсоўваючы мінулую вайну й згадваючы панесеныя ў ёй ахвяры, Васіль Быкаў сказаў: „Дух свабодалюбства й непадлегласьці злу здабыў сабе ў той барацьбе магутныя крылы. Я веру, яны не апусьцяцца". Гэтак сфармуляваў пісьменьнік сваю высокую ідэю, як чалавека, грамадзяніна й Беларуса.

І не зважаючы на несправядлівыя й дэмагагічныя на яго напады за аповесьць „Мёртвым не баліць", у сваёй новай аповесьці „Праклятая вышыня" Васіль Быкаў пасьветчыў, што гэнаму свайму пісьменьніцкаму прынцыпу й гэнай сваёй гуманістычнай ідэі „свабодалюбства й непадлегласьці злу" застаўся ён верны.

**Ст. Станкевіч**

---

## УВАГА! УВАГА!
## ВАЖНАЕ ДЛЯ УСІХ

**Заміж траціць грошы на купляньне віншавальных картак і паштовыя маркі, а таксама й дарагі час на надпісваньне й выпісваньне адрасоў дзеля калядных і навагодніх павіншаваньняў, раім зрабіць гэта таней, прасьцей і карысьней у нашай газэце, зьмяшчаючы сваё імя й прозьвішча пад супольным павіншаваньнем.**

**Ад імя тых, што да 25 лістапада прышлюць па 10 даляраў на адрыс газэты „Беларус" на гэтую мэту, будзе ў сёлетнім сьнежанскім нумары газэты зьмешчанае прыгожа аформленае, як і мінулымі гадамі, супольнае калядпае й навагодняе павіншаваньне Сваякоў, Прыяцеляў і Знаёмых.**

**Робячы гэтак, Вы дапаможаце матарыяльна нашай газэце, якая апошнім часам знаходзіцца ў цяжкім грашовым палажэньні. Прысланыя Вамі грошы за павіншаваньні будуць намі разглядацца, як Ваша ахвяра на Выдавецкі Фонд „Беларуса".**

**Дык не адкладаючы, адразу-ж выпішце чэк на 10 даляраў на „Беларуса" ды перашліце яго на адрыс:**

"BIELARUS"
P. O. Box 109
Jamaica, N. Y. 11431

**Гэтым зробіце добрую грамадзкую й карысную сабе справу.**

**Выдавецтва „Беларуса"**

---

## БЕЛАРУСЫ = ЗА НІКСАНА



**Архіяпіскап БАПЦ Васіль з Рычардам Ніксанам у 1958 годзе, калі ён быў Віцэ-Прэзыдэнтам ЗША**

Перадвыбарная кампанія ў Нью-Ёрку ў поўным разгары. Усе тры галоўныя кандыдаты на прэзыдэнта ЗША праяўляюць тут вялікую актыўнасьць. Гэта хваля палітычнай агітацыі бязумоўна кранае й нас, Беларусаў, бо й нам-жа не абыякава, хто будзе наступным амэрыканскім прэзыдэнтам, як ён аднясецца да нашай эміграцыі ў гэтай краіне й да лёсу нашага падняволенага народу. Усё гэта змушае кажнага з нас добра задумацца над тым, за каго галасаваць, каб гэты голас не змарнаваўся, а пайшоў на агульную карысьць.

Шмат каму з нас падабаецца ваяўнічая пастава б. губэрнатара Уолэса — яго бясспрэчны антыкамунізм і станоўчы правы кірунак. Нажаль, ёсьць важныя прычыны, чаму ён ня можа быць выбраны. Па першае, як палітык і дзеяч, ён чалавек малога дазнаньня, якому цяжка разьбірацца ў складаных праблемах наймагутнейшай і найбагацейшай дзяржавы ў сьвеце. Надрабляе ён шмат сваім ваяўнічым радыкалізмам, які сяды-тады мяжуе з дэмагогіяй, але, разумеецца, гэтым ён ня можа прыкрыць сваёй аснаўной слабасьці. Па другое, сілы правага кірунку, на якія Уолэс вылучна і абапіраецца, яшчэ недастаткова зарганізаваныя ані замацаваныя па ўсёй шырокай прасторы ЗША, каб магчы адно імі перасіліць укаранелыя гнёзды левай рэакцыі і дэструкцыі, якія ўсё яшчэ пашыраюць тут свае раскладаючыя ўплывы. Як і ў 1964 годзе, разьлічаць толькі на правы канструктыўны элемэнт яшчэ нельга — а Уолэсу-ж далёка да Голдуотэра! Таму перш, чым кінуць свой голас за Уолэса, трэба добра падумаць: ці ня пойдзе ён на марна . . .

Другая прэзыдэнцкая кандыдатура, да якой Амэрыканцы беларускага паходжаньня павінны ставіцца крытычна, ёсьць віцэ-прэзыдэнт Гамфрэй, які рэпрэзэнтуе сучасную адміністрацыю ЗША. Бязумоўна, нас найбольш цікавіць вонкавая палітыка гэтай адміністрацыі, хоць шмат што можна скрытыкаваць і на адрэзку нутраным. Вось-жа, дасюль беларуская эміграцыя ў Амэрыцы пасьлядоўна падтрымоўвала палітыку Джансана ў Ветнаме, надзеючыся, што прынцып актыўнага супраціву камуністычнай агрэсіі будзе так-жа цьвёрда праводжаны і ў Эўропе. Нажаль, з часам выясьнілася, што робіцца нешта зусім адваротнае: пачалася акцыя „будаваньня мастоў" да крамлёўскае клікі, каб быццам гэтым прыцягнуць яе да справы ўсеагульнага раззбраеньня і т. п. Прытым пушчаны ў поўнае забыцьцё тыя „масты", што здаўна існуюць між воляллюбнай Амэрыкай і ўсімі прыгнечанымі народамі сьвету — гэтыя багатыя запасы добрай волі да Амэрыкі дасюль валяюцца бяз ужытку. Але канчатковая няўдача цяперашняй адміністрацыі прыйшла з днём акупацыі Чэхаславаччыны: заміж таго, каб прадбачыць якраз такі паварот на палітычным гарызоньце Эўропы й разумна падрыхтавацца да прынагоднага выкарыстаньня каньюнктуры маланкавай акупацыяй Кубы і ачышчэньня яе ад варожага Амэрыцы элемэнту — Джансан, Гамфрэй, Раск, зь легіёнам памочнікаў, нятолькі былі заскочаныя ўраспалох, але сваімі няўклюжымі дзеямі да й пасьля акупацыі фактычна паспрыялі нягоднай акцыі Масквы, чым нагналі нямала страху ў сталіцах Заходняе Эўропы й нанесьлі вялікую шкоду амэрыканскай палітыцы на далёкую мэту.

Сяньня ўжо кажнаму ясна, што ў Вашынгтоне спатрэбіцца нешта болып, чымся толькі зьмена дэкарацыі. Патрэбныя там радыкальная чыстка й адсьвяжэньне тухлай атмасфэры, у якой ад часоў Айзэнгаўэра зарадзілася шмат такіх рэчаў, што Амэрыцы прыйдзецца саромецца іх на доўгія гады. З усіх трох кандыдатаў толькі Ніксан дастаткова кваліфікаваны сваім характарам і дазнаньнем, каб вывесьці Амэрыку ізноў на шырокія воды. За час свае службы ў Сэнаце й на становішчы віцэ-прэзыдэнта ён паказаў сябе з найлепшага боку. Хоць ён ня выкрыквае, але ўсім ведама, што ён нічым ня меншы антыкамуністы, чым Уолэс — і паказаў гэта ня словам, а чынам. Мякка-мозгім лібэралам ён ніколі ня быў, а на справы глядзіць цьвяроза й практычна. Самае-ж галоўнае, што ён ёсьць чалавекам з вольнымі рукамі, нічым не зьвязаным з тым грузным багажом праблемаў сучаснай адміністрацыі, дзеля разьвязкі якіх неабходна адна перадумова — сьвежы чалавек. Голас за Ніксана, гэта голас за лепшую будучыню для Амэрыкі, а тым самым і для падняволенай Беларусі.

**Беларускі Камітэт**
**за Ніксана-Агню**

---

### БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ ЗА НІКСАНА — АГНЮ

Нядаўна заснаваўся ў Нью Ёрку Беларускі Камітэт за Ніксана-Агню ў складзе: сп. Пётры Манькоўскага — старшыні, сп. Уладзімера Курылы — віцэ-старшыні, інж. Мікалая Гарошкі — сакратара й скарбніка ды д-ра Уладзімера Набагеза й д-ра Віктара Васілеўскага — сяброў.

У супрацоўніцтве з агульным Камітэтам Ньюёркаўцаў за Ніксана-Агню, Беларускі Камітэт каардынуе працу беларускіх асяродкаў у карысьць абраньня Рычарда Ніксана за прэзыдэнта ЗША і Сьпіро Агню — за віцэ-прэзыдэнта.

---

### САВЕЦКІ МІЛІТАРЫЗМ

Савецкі Саюз праводзіць вялікую прапаганду „за мір" на ўсім сьвеце, у якой падкрэсьлівае сваю міралюбнасьць і шмат дзе спрычыняецца да дэманстрацыяў „за мір" у краінах вольнага сьвету. У сябе-ж дома Савецкі Саюз утрымлівае найвялікшую армію ў сьвеце, а разбудовай марскога флёту й нуклеарнай зброі намагаецца перагнаць Амэрыку.

Адначасна Савецкі Саюз узгадоўвае свае грамадзтва ў мілітарным духу. У савецкіх школах, побач зь гімнастыкай, праводзіцца параміліта рная падрыхтоўка школьных дзяцей і моладзі. Апрача гэтага, кажны год летам адбываюцца ваенныя манэўры падросткаў — хлапцоў і дзяўчат у веку 12-15 год з удзелам і пад кіраўніцтвам вайсковых кадраў. Манэўры гэтыя арганізуюцца ў прывабных краінах Прыбалтыкі і ўзьбярэжжы Ціхага Акіяну.

У мінулым леце ў ваенных манэўрах у Савецкім Саюзе брала ўдзел 6 (шэсьць!) мільёнаў падросткаў. А летам гэтага году лік гэты больш чым падвоіўся. У ваенных манэўрах сёлетняга лета ў Савецкім Саюзе ўзяло ўдзел аж 15 (пятнаццаць!) міліёнаў падросткаў. Гэта ў той час, калі падросткі краінаў вольнага сьвету цешацца вакацыямі на лоне прыроды або памагаюць рабіць дэманстрацыі супраць сваіх урадаў, як гэта было ў Парыжы й шмат якіх іншых краінах.

### СУСТРЭЧА ІЗЬ СЬПІРО АГНЮ

У панядзелак 14 кастрычніка ў найбагацейшым гатэлі Нью Ёрку „Вальдорф-Асторыя" быў наладжаны ўрачысты абед-сустрэча прадстаўнікоў этнічных групаў з рэспубліканскім кандыдатам на віцэ-прэзыдэнта ЗША губарнатарам штату Мэрылэнд Сьпіро Агню. Імпрэза была наладжаная агульным Ньюёркаўскім Камітэтам за Ніксана-Агню, а гаспадаром прыняцьця быў ведамы амэрыканскі мультыміліянэр грэцкага, падобна як і Сьпіро Агню, паходжаньня Спырос П. Скурас, суудзельнік фільмовага прадпрыемства „20 Сэнчэры Фокс".

Перад прадстаўнікамі 33-ох этнічных групаў у ліку каля 700 выступіў Сьпіро Агню з прамовай, у якой падаў галоўныя пункты свае выбарнае праграмы, пасьля чаго падыходзіў да кажнага стала й асабіста вітаў прысутных.

На прыняцьці гэтым Беларусаў рэпрэзэнтавалі д-р Станіслаў і Зінаіда Станкевічы, інж. Мікалай Гарошка й мгр. Пётр Манькоўскі.

BIELARUS

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** —Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртаваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

## САВЕЦКАЯ "ДАКТРЫНА ІНТЭРВЭНЦЫІ"

У Вашынгтоне працаўнікі Дзяржаўнага Дэпартаманту, што займаюцца фармуляваньнем вонкавае палітыкі Задзіночаных Штатаў, галовяцца над праблемай гэтак званае „новае савецкае дактрыны". Паводля гэтае „дактрыны", Савецкі Саюз пакідае за сабой права пастанаўляць, ці ёсьць аснова для інтэрвэнцыі ў тым ці іншым краі Цэнтральнае Эўропы.

Абгрунтаваньне гэтае дактрыны было сфармуляванае ў газэце „Праўда" 26 верасьня сёлета. Тую самую тэзу пра права на інтэрвэнцыю паўтарыў і савецкі міністар замежных справаў Грамыка ў сваёй прамове на Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў у Нью-Ёрку. Газэта „Зьвязда", між іншага, ды іншыя беларускія рэспубліканскія газэты апублікавалі гэную Грамыкаву прамову 5 кастрычніка. Вось як гучыць Грамыкава абгрунтаваньне гэтак званае „дактрыны інтэрвэнцыі" (паводля „Зьвязды"):

„Савецкі Саюз лічыць неабходным заявіць і з гэтай трыбуны, што сацыялістычныя дзяржавы ня могуць дапусьціць і не дапусьцяць такога становішча, калі ўшчамліліся-б жыцьцёвыя інтарэсы сацыялізму, калі рабілі-б замах на недатыкальнасьць рубяжоў сацыялістычнай садружнасьці, а тым самым на асновы міжнароднага міру".

На думку камэнтатараў міжнародных падзеяў, а таксама Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША, сэнс Грамыкавае заявы, як і папярэдня апублікаванага артыкулу газэты „Праўда", наступны:

Калі якая-небудзь зь дзяржаваў Цэнтральнае Эўропы надумаецца пайсьці сваім шляхом да сацыялізму, і калі гэта не спадабаецца савецкаму ўраду, Масква заяўляе цяпер, што яна захоўвае за сабой права на збройную інтэрвэнцыю — так, як гэта было ў выпадку Чэхаславаччыны.

Падмацаваньне гэткае інтэрпрэтацыі, дарэчы, даюць далейшыя заявы савецкіх уладаў. На беларускай рэспубліканскай ідэялягічнай канфэрэнцыі, прыкладам, першы сакратар ЦК КПБ Машэраў 2-га кастрычніка сёлета заявіў (газэта „Зьвязда" за 4-га кастрычніка):

„Пошукі нацыянальных варыянтаў марксызму як у тэорыі, так і практыцы прыводзяць да... павароту ў бок буржуазнага нацыяналізму. Рэвізіянізм, нацыяналізм усё больш афармляецца як сур'ёзная небясьпека ў сусьветнай сыстэме сацыялізму".

Паўстае, зразумела, пытаньне: Ці, скажам, марксызм у Югаславіі або Румыніі — „нацыянальны варыянт" марксызму, а значыцца „сур'ёзная небясьпека ў сусьветнай сыстэме сацыялізму", ці не? Хто на гэткае пытаньне павінен даваць адказ? Адказваць на гэтае пытаньне — і гэта ў Вашынгтоне вельмі добра разумеюць — Масква захоўвае за сабой вылучнае права, гэтак-жа, як яна пастанавіла ў жнівені сёлета, што „сур'ёзнаю небясьпекаю ў сусьветнай сыстэме сацыялізму" сталася Чэхаславаччына.

Пасьля Грамыкавае прамовы перад Генэральнай Асамблеяй ЗН Дзяржаўны Сакратар ЗША Раск, сустрэўшыся з Грамыкам, спрабаваў быў наладзіць гутарку зь ім на тэму новае савецкае дактрыны, каб выказаць сваё ўзьнепакоеньне гэткім стаўленьнем справы, але Грамыка адхіліў усякую дыскусію на гэтую тэму.

Вось чаму Дзяржаўны Дэпартамант Задзіночаных Штатаў Амэрыкі распрацоўвае праекты вонкавапалітычнага курсу, на выпадак, калі-б Савецкі Саюз, прыкрываючыся сваёю „дактрынаю інтэрвэнцыі", пастанавіў ліквідаваць шляхом інвазіі „нацыянальны варыянт марксізму" ў Румыніі або Югаславіі.

**Я. З.**

## НІКСАН ПРА ДАЧЫНЕНЬНІ ІЗ СССР

У тыднёвіку „Юэс Ньюз энд Ўорлд Рыпорт" за 7 кастрычніка сёлета было апублікаванае даўгое інтэрвю з кандыдатам на прэзыдэнта ЗША ад Рэспубліканскае партыі Рычардам Ніксанам пра ягоныя пагляды на нутраное й міжнароднае палажэньне ды пляны ў выпадку, калі ён будзе абраны ў Белы Дом.

Р. Ніксан уважае, што Амэрыка павінна весьці з Масквой перамовы, бо гэта адзіны шлях да ўхіленьня ад ядзернага катаклізму. Гэтак, прыкладам, у пытаньні Блізкага Ўсходу (арабска-ізраэльскага канфлікту) ЗША і СССР, кажа Р. Ніксан, мусяць шукаць нейкага пагадненьня, каб ухіліцца там ад сутычкі, што можа абярнуцца ў сусьветную вайну.

Гандаль з Савецкім Саюзам ды іншымі камуністычнымі дзяржавамі Ўсходняе Эўропы, на думку Р. Ніксана, мог-бы адбывацца, але паводля прынцыпу „дар за дар". У ніякім выпадку, аднак, кажа кандыдат Рэспубліканскае партыі, Амэрыка не павінна даваць камуністычным дзяржавам даўгатэрміновых пазыкаў і не прадаваць тавараў, што маюць стратэгічнае значаньне. Р. Ніксан уважае, што наагул, гандаль у руках амэрыканскага ўраду гэта — моцны козыр, і яго трэба выкарыстоўваць для паслабленьня кантролю Савецкага Саюзу над краямі Ўсходняе Эўропы, а не кіравацца ў гэтым пытаньні адно мяккагаловай дабразычлівасьцяй.

Што да палітыкі „будаваньня мастоў на Ўсход", якую прабаваў быў праводзіць Прэзыдэнт Джансан (пакуль інвазія Чэхаславаччыны не ўзарвала гэных „мастоў"), дык Р. Ніксан стаіць за гэткую палітыку, але масты, кажа, трэба будаваць адно ад свайго берагу да палавіны, а другую палавіну няхай будуе другі бок. Ня трэба ўважаць, на думку Р. Ніксана, як гэта часта ўважаў урад Л. Джансана, што палітыка Задзіночаных Штатаў і Савецкага Саюзу ў сьвеце ставіць сабе тыя самыя мэты, бо тымчасам, як Амэрыка шукае міру, мэта Савецкага Савецкага Саюзу — усьцяж экспансія вакол сьвету.

### ЛЁНДАНСКІ ЧАСАПІС ПРА БЕЛАРУСАЎ

Лёнданскі часапіс „Маніфолд", прысьвечаны паэзіі й мастацтву, у сваім сёлетнім 26-ым нумары не абмінуў і Беларусаў. Ведамая ангельская паэтка Вера Рыч, шчырая прыяцелька Беларусаў і выдатная перакладніца твораў беларускае паэзіі ў ангельскую мову, апрача сваіх арыгінальных твораў, зьмясьціла ў часапісе й свой пераклад верша беларускага падсавецкага паэты Янкі Сіпакова „Зялёнае воблака на рынку".

Вельмі пахвальна й павучальна навет для некаторых беларускіх аўтараў, якія пішуць паангельску, што часапіс „Маніфолд" беларускія прозьвішчы перадае ў іхным беларускім правапісе лацінкай. Гэтак прозьвішча „Сіпакоў" напісанае з „ў" (нескладовым) на канцы.

Апрача гэтага, у ваглядзе культурных дачыненьняў зь іншымі народамі чытаем гэткую інфармацыю: „Іншым грамадзкім кантактам зь Беларусамі на чужыне было сьляткаваньне 50-ых угодкаў іхнага абвешчаньня кароткатрывалай незалежнасьці. На вельмі людной урачыстасьці мы спаткалі іх усіх ды многіх зь іхных брытанскіх прыяцеляў, сярод якіх былі лёрд Бэрвуд, лёрд Гарлек, спадар і спадарыня Маўрыс Мэк Мілан і Аўбэрон Гэрбэрт. Элізабэт Ані Гарвэй і Вера Рыч зьявіліся ў беларускіх нацыянальных касьцюмах, і кажны быў вясёлы й радасны".

# „САЛАЎКІ ВЫ, САЛАЎКІ!"

Ніколі й нідзе Беларусь не загіне,
Ніколі й нідзе Беларусь не памрэ:
Ні ў турмах, ні ў концах, ні ў клятых краінах,
Ні ў дзікім прыгоне, ў маскоўскім ярме.
**Зь „Гімну беларускіх выгнанцаў".**

Мы ўжо досыць прызвычаеныя да сталай завяртанскай хлусьні і таму іхняя газэтка з падробленым назовам „Голас радзімы" ня выклікае ў нас нічога апрача агіды. Аднак, пакуль яшчэ жывыя, уважаем за свой абавязак стаць на абарону ад ганебнае маны нашых сьвятой памяці шматлікіх суродзічаў, закатаваных бальшавізмам.

У № 1041 кагадзе згаданага „Голасу радзімы" зьмешчаны, відаць, наўмысьля на расейскай мове, артыкул „Соловки вы, Соловки!", два аўтары якога — С. Клімковіч ды Т. Рэўтовіч, захапляючыся салавецкімі краявідамі й сучаснымі тамашнімі выгодамі для турыстых, пішуць:

„І было радасным, што гэты поўны ласкі край пасьля стагодзьдзяў цемрашалу й няміласэрнасьці абдароўвае людзей сваёй цудоўнай прыгажосьцю", — а далей растлумачваюць ды абураюцца:

„Здаўна па Расеі йшла панурая слава аб Салаўкох, як аб турме, зь якой ня можна ўцячы. У сутарэньнях сабораў, казэматах крэпасных муроў і вежах нудзіліся сотні вязьняў, што не даспадобы прыйшліся царкве й царом. Сакрэтныя ізалятары, у якіх увязьнены ня ў стане быў выпрастацца, адчыняліся толькі тады, калі на месца памерлага паступала чарговая ахвяра. І цяпер ужо даўно забытыя словы старой песьні:

Салаўкі вы, Салаўкі,
Дальняя дарога...
Сэрца ные ад нуды,
На душы трывога".

Ну, навошта, „таварышы", гэтак брахаць чытачом проста ў вочы? Ці вы спадзяецеся на тое, што ў народу благая памяць? І няўжо менавіта за часоў годнага пагарды расейскага царызму нарадзілася гэтая песьня, шырака пашыраная па гарадох і вёсках, паняволеных куды горшым за яго расейскім бальшавізмам?

Адпавядае праўдзе, што некалі пры царох тут зазналі гора асабліва нянавісьня ім змагары за народную волю, але... Астатнім тутэйшым вязьнем быў апошні кашавы атаман Запароскай Сечы Пётра Кальнішэўскі. Калі імпэратар Мікалай Першы яго, ужо 101-гадовага дзеда, памілаваў, дык ён адмовіўся ад царскай ласкі дый пахаваны тут, аб чым дагэтуль сьветчыць цяжкі каменны надгробак з паўсьцёртым напісам. А ў тысячаў паломнікаў, якія пазьней і ўзімку й улетку, і чыгункай і пяхотаю, сьцякаліся з усіх бакоў былой Расеі сюды ў вядомы Салавецкі манастыр, ня было з прычыны гэтага багамольля ні нуды на сэрцы, ні трывогі на душы. Нічога, апрача радасьці, ня вычувалі яны, пабачыўшы нарэшце ўвенчаныя крыжамі прыгожыя кумпалы ягоных старавечных сабораў, толькі пабожна чуліся ўшаноўваючы з глыбокай верай астанкі Салавецкіх сьвяціцеляў, вялебных Савація, Засімы й Гэрмана. Не, усё-ж ня ў царскай Расеі нарадзілася гэтая сумная песьня.

Улетку 1922 г. часткова выгарэў галоўны ў Салавецкім манастыры Спаса-Прэабражэнскі сабор, прычым загінула шмат каштоўных летапісаў і старадаўніх фрэскаў. Гэты выключны помнік рэлігіі, гісторыі й мастацтва сьвядома падпаліў першы савецкі гаспадар паруганых Салаўкоў — Архангельскі Губвыканком, каб у часе перадачы іх другому гаспадару — ОГПУ — прыхаваць сьляды свайго рабунку тут золата й серабра. А гэты іншы гаспадар адразу стварыў на Салаўкох найбольш страшэнны ў СССР канцлягер, вядомы пад назовам „СЛОН", што без скарачэньня й у перакладзе з мовы „старэйшага брата" азначае — Салавецкія лягеры асобнага прызначэньня. Сюды, у сутарэньні й казэматы, траплялі бяз усялякага суду — паводля пастановаў вярхоўнай калегіі ОГПУ або ейных мясцовых тройкаў па барацьбе з так званай контрарэвалюцыяй. І ў тым-жа 1922 годзе першых тутэйшых вязьняў, каля тысячы ахвіцэраў белых арміяў, чэкістыя загналі на дзьве трухлявыя баржы, вывялі потым на буксіры ў мора ды разам з баржамі патапілі...

Аднак праўда, як кажа народ, ні ў полымі не згарыць, ні ў вадзе не патоне — рана ці позна, але ўрэшце-рэштаў выйдзе яна навонкі. Хоць штогод узімку каля паловы салавецкіх катаржнікаў, якіх агульная колькасьць, увесь час папаўняючыся новымі ахвярамі, хісталася паміж 10 і 25 тысячаў, гінулі ад шкарбункі, сухотаў і зьнясіленьня, хоць у 1926 годзе тры чвэрці іх вымерлі ад сыпнога тыфусу, хоць іх сотнямі расстрэльвалі на Анзэрскім абтоку або замардоўвалі ў Абакумавай шчыліне манастырскага муру ды ў ізалятарах гары Сякіркі — увесь сьвет дазнаўся й ведае пра жахі Салаўкоў. Цудам ацалелыя ад бальшавіцкіх катаў напісалі пра тутэйшыя людзкія пакуты дзесяткі кніжкаў. А паміж імі варта ў першую чаргу прыгадаць перакладзеную на шэсьць эўрапейскіх моваў кніжку колішняга мясцовага гаротніка, слыннага Францішка Аляхновіча „У кіпцюрох ГПУ".

Былы палітычны вязень царскіх вастогаў, выдатны наш драматург, перасьледваны ўрадам Польшчы за нацыянальную справу, Францішак Аляховіч даў веру савецкай прапагандзе, што ў БССР будуецца „Беларускі дом". Таму ў 1926 г. ён з адкрытай душой пераяжджае ў гэты самы „дом", дзе спачатку дастае разам з кветкамі пасаду дырэктара Віцебскага Беларускага Дзяржаўнага тэатру, але праз месяц Маскоўская Лубянка абвінавуціла яго ў польскім шпіянажы і засудзіла на 10 год зьняволеньня на Салаўкох. Аж праз сем год Аляхновіча, як польскага грамадзяніна, гэпэушнікі вызваляюць ад катаргі, каб усёроўна ў 1944 г. застрэліць яго пры дапамозе сваіх агентаў у Вільні. Гэта была бальшавіцкая помста за праўдзівую кніжку, што абыйшла ўсю Эўропу, вытрымаўшы ў паасобных ейных краінах па некалькі выданьняў.

У чэрвені 1925 г. у Польшчы, дазволеная ўрадам Пяста, узьнікла, а потым моцна яе ўскалыхнула славутая Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Зьяўляючыся натуральным працягам Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якая паўстала ў 1903 г., яна ачоліла нацыянальна-вызвольны рух і змаганьне з польскім прыгнётам, што зьмяніў ранейшы расейскі. На працягу кароткага часу БСРГ займела блізу 120 тысячаў сяброў, згуртаваных амаль у 2.000 гурткох. Спалоханы ейным ростам урад Пілсудзкага, толькі ў пачатку 1927 г., з дапамогай камуністычных правакацыяў, здолеў разграміць Грамаду. Працэс у Вільні над 56 галоўнымі абвінавачванымі па справе БСРГ цягнуўся ад 22 лютага да 22 травеня 1928 г. і засудзіў ейнае чало — былых паслоў польскага сойму — ад 8 да 12 год суворага турэмнага рэжыму. Аднак неўзабаве й паступова яны бадай усе, ідучы сьледам Францішка Аляхновіча і, як ён, спадманутыя байкай аб ленінскім самавызначэньні нацыянальнасьцяў, трапілі ў СССР — адныя, вызваленыя з турмаў, самі патаемна перайшлі дзяржаўную мяжу, другія ў парадку абмену польскага ўраду з савецкімі вязьнямі. Але-ж іх, як таго Аляхновіча, спаткаў ягоны сумны лёс.

У 1949 г. зьявілася ў вольным сьвеце кніжка былога салавецкага катаржніка, вядомага ўкраінскага літаратара С. Підгайнага „Недастраляныя", у якой ёсьць адмысловы разьдзел — Беларусы на Салаўкох, што бадай цалком прысьвечаны грамадаўцам. Асабліва прачула прыгадвае аўтар Рак-Міхайлоўскага, Мятлу, Дварчаніна й Гаўрыліка.

Пра Сымона Рак-Міхайлоўскага ён піша: „На Салаўкох ён трымаў сябе незалежна, працаваў на цяжкіх фізычных працах, скрозь і заўсёды падкрэсьліваў сваю нянавісьць да бальшавізму, да Масквы й урэшце неяк у 1936 г. трапіў у вадзін з салавецкіх ізалятараў, дзе й загінуў".

Аб Пятры Мятлу С. Підгайны згадзае: „Ён быў хворы на сухоты, кашляў, а рабіў на цяжкай не пад сілу для яго працы. У выніку трапіў у Салавецкі шпіталь для так званых „дахадзягаў", адкуль увесну 1936 г. патаемна вынесьлі ягоны труп, а дзе пахавалі — ніхто ня ведае".

Вялікае ўражаньне на аўтара зрабіў Ігнат Дварчанін: „Бледны, з чорнай барадою, крыху згорблены, ён сваёю манерою ў размове нагадваў прафэсара. Хоць і ня меў асаблівых сутычкаў зь лягерным ГПУ, тым ня менш таксама ў 1936 г. трапіў у ізалятар, а пасьля пра яго больш нічога ня было чуваць".

Узрушаюць радкі С. Підгайнага прызначаныя Язэпу Гаўрыліку: „Ён быў тыповым сялянскім настаўнікам. Высокі, русы, з рыжанькаю барадкаю на круглявым адкрытым твары з крыху кірпатым носам. Ад яго так і тхнула моцным беларускім дзядзькам. Але-ж у канцы 1935 году, калі я спаткаў яго на абтоку Малыя Зайчыкі, ён выглядаў дужа змучаным, ні зь кім не размаўляў, штовечар выходзіў з бараку й, укленчыўшы за дзікаю заімшэлаю скалою, доўга маліўся. Адсюль з Малых Зайчыкаў яго й забралі ў ізалятар, адкуль ён так і ня выйшаў".

Тысячы Беларусаў загінулі ў страшэнных пакутах на Салавецкай бальшавіцкай катарзе. Адныя зь іх, паміраючы, згадвалі Дзьвіну, другія Белавежу, трэйція Нарач, чацьвертыя Нёман, а ўсе разам — Беларусь. У сваёй пераважнай бальшыні гэта былі звычайныя сяляне й работнікі, аб якіх з сардэчнай цяплынёй згадвае Францішак Аляхновіч:

„...сустрэў двух землякоў, родам зь Вільні, работнікаў шкляной гуты, былых грамадаўцаў. Зачараваныя міражам „сацыялістычнага будаўніцтва", яны перайшлі мяжу, перакананыя, што знойдуць тут сваю другую — „работніцкую бацькаўшчыну", а знайшлі катаргу... Цяпер вочы іх расчыніліся, яны шкадавалі свайго кроку, клялі агітатараў, тужліва ўспаміналі родную Вільню".

Пад'яжджаючы да Салаўкоў, завяртанскія пісакі сьпявалі пад гітару „Падмаскоўныя вечары", рыхтуючыся скакаць трапака на касьцёх нашых братоў і бацькоў. А мы пры ўспаміне аб тых незабытных Салаўкох ськінем з галоваў шапкі ды, сашчаміўшы кулакі, памолімся аб усіх пакутніках за Маці Беларусь, што палеглі тут у невядомых магілках, парослых быльнёгам. Не, не за царскія, а за бальшавіцкія часы нарадзілася гаротная народная песьня:

Салаўкі вы, Салаўкі,
Дальняя дарога...
Сэрца ные ад нуды,
На душы трывога.

**Юрка Віцьбіч**

### ПАСЕДЖАНЬНЕ ГАЛОЎНАЙ УПРАВЫ БАЗА

Адбылося 15-га верасьня ў памешканьні Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку. Старшыня Галоўнай Управы, сп. У. Курыла, даў кароткую справаздачу зь дзейнасьці Г. Управы за летнія месяцы, кладучы асаблівы нацiск на 8-мую Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, што мела месца ў Дэтройце ад 31-га жнівеня да 2-га верасьня. Таксама прысутныя выслухалі справаздачу скарбніка Г. Управы сп. Б. Даніловіча за час ад апошняга Кангрэсу БАЗА.

На парадку дня паседжаньня стаяла й пытаньне адзначэньня 20-цігадовага юбілею Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, якое было заснаванае ў Нью Ёрку летам 1949 г.

Асобным пунктам разглядалася справа падрыхтоўкі да беларускага нацыянальнага сьвята — 25-га Сакавіка 1969 г., якое набывае асаблівую важнасьць у сувязі з узмоцненай кампаніяй маскоўскай прапаганды на тэму „50 год БССР". Пастаноўлена павесьці контракцыю супроць скрытай і адкрытай бальшавіцкай хлусьні ды прамоўчваньня праўды.

**А. Суток**

### ПАМЁР ПЁТР ЛАСТАЎКА

Як паведаміла беластоцкая „Ніва", 19 верасьня сёлета памёр, пасьля працяглай хваробы сэрца, заслужаны беларускі грамадзкі й культурны дзеяч Пётр Ластаўка.

Пётр Ластаўка нарадзіўся 16 лютага 1907 году ў вёсцы Жукі-Ложныя Дзісьненскага павету ў беднай сялянскай сям'і. Маючы ўжо 14 гадоў, ён прыймаў удзел у беларускім руху, распаўсюджваючы ў Дзісьненшчыне беларускія кніжкі й газэты. У 1926 годзе ён прыймаў актыўны ўдзел у дзейнасьці Беларускай Сялянска - Работніцкай Грамады, за што быў польскімі ўладамі арыштаваны й прасядзеў у Лукіскай турме ў Вільні каля году часу.

Пазьней Ластаўка ў пошуках працы апынуўся ў Варшаве, дзе стаўся галоўным ініцыятарам беларускай грамадзкай дзейнасьці й працаваў даўгі час сакратаром зарганізаванага ім-жа Асьветнага Таварыства Беларусаў Варшавы. Ад пачатку йснаваньня Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў 1956 годзе ў Польшчы, Пётр Ластаўка быў ягоным дзейным сябрам ды прыймаў актыўны ўдзел у працы Варшаўскага Аддзелу Таварыства.

# ВЕСТКІ З КАНАДЫ

## НАПЯРЭДАДНІ 20-ГОДЗЬДЗЯ ЗБК

28-га лістапада 1948 году заснаванае было Згуртаваньне Беларусаў Канады — першая нацыянальная беларуская арганізацыя ў Канадзе. Існаваньню аднаўленай БАПЦ ішоў тады 6-ты месяц, а Згуртаваньню Беларусаў у Вялікай Брытаніі 22-гі. Было гэта таксама ў тую восень, калі беларускія студэнты з Марбургу паехалі ў Бэльгію ў Лювэн канчаць студыі.

28-га лістапада 1948 году сабралася 14 новапрыбылых тады ў Канаду Беларусаў у Таронта, якія залажылі арганізацыю й назвалі яе ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ. Так было запачаткаванае арганізаванае беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Канадзе. ЗБК расло, пускала карэньні — Аддзелы — па Канадзе. Змагалася зь цяжкасьцямі, перажывала крызісы, крышталізавала свой ідэялягічны кірунак — свой ідэялягічны хрыбет і такім чынам сяньня сталася спружынай беларускага жыцьця, найболей вырабленай і дзейнай беларускай арганізацыяй у Канадзе.

**Важнейшыя даты й падзеі ў жыцьці ЗБК.**

**1948, 28-га лістапада —** арганізацыйная зборка й заснаваньне ЗБК.

**1949, 28 травеня** — Першы Агульны Зьезд ЗБК, заснаваньне Аддзелаў: Таронта й Гамільтон. Пасьля былі арганізаваныя Аддзелы ў Садбуры, Лёндан, Атава, Мантрэаль.

**1948 — 1954** — Выдаваньне „Беларускага Эміграната".

**1950, у ліпені** — Першая візыта Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка.

**1951** — Апублікаваньне ў ангельскай мове кніжкі Прэзыдэнта Рады БНР М. Абрамчыка "I accuse Kremlin of Genocide of my nation".

**1951 — 1953** — Лектарат беларусаведы пры Тарантонскім Унівэрсытэце.

**1952, 16, 17 травеня —** Чацьверты Агульны Зьезд ЗБК. На ім частка сяброў адыйшла, каб заснаваць Беларускае Нацыянальнае Аб'яднаньне.

**1952, 4, 5, 6, ліпеня** на ініцыятыву ЗБК ў супрацоўніцтве із Згуртаваньнем Беларускае Моладзі ў ЗША адбылася ў Нягара Фолз, Канада, Першая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, прысьвечаная Янку Купалу й Купальлю.

**1953, 3-га травеня** заснаваная была Беларуская Крэдытовая Супалка ў Таронта "Belorussian (Toronto) Credit Union, Ltd.", якая абслугоўвае Беларусаў Таронта й ваколіц аж да сяньня.

**1954,** першая чверць году — ЗБК купіла першы Беларускі Дом у Канадзе, на Дандас 1000 у Таронта.

**1954, 2 красав.** — Заснаваньне першага прыходу й царквы БАПЦ у Канадзе. Парахвія БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта мела сваю першую царкву на Дандас 1000.

**1954, 20-га лістапада** — Высьвячэньне Беларускага Дому з удзелам Яго Высока-Праасьвяшчэнства Архіяпіскапа БАПЦ Васіля ды шматлікімі гасьцямі—Беларусамі, з ЗША ды усіх канцоў Канады.

**1956, 1, 2-га верасьня** — Другая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Таронта.

**1956** — Візыта а. Рабэрта з Бэльгіі й ягоная прамова на 8-ым Агульным Зьезьдзе ЗБК, калі ён заклікаў нас — Беларусаў да патрыятызму й працы для Беларусі.

**1959** — Купля дому Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру на 524 Ст. Клярэнс Авэню ў Таронта й пераход сюды царквы Сьв. Кірылы Тураўскага.

**1962, 1, 2, 3 верасьня** — Пятая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Таронта.

**1963, 30-га лістапада** — Стагодзьдзе паўстаньня Кастуся Каліноўскага, адзначанае супольна з БНА акадэміяй.

**1963** — Аднаўленьне выдаваньня „Беларуса" зь „Весткамі з Канады" на супалку з БАЗА.

**1965, чэрвень** — Візыта Яго Эксцэленцыі Уладыкі Часлава Сіповіча.

**1965, 29-га жніўня** — Заснаваньне Задзіночаньня Беларускіх Жанчынаў Канады.

**1965, 24 кастрычніка** — Акадэмія ў чэсьць 125-тых угодкаў ад нараджэньня Францішка Багушэвіча.

**1966, 27 лютага** — Адзначаньне 50-тых угодкаў сьмерці Цёткі — Алёізы Пашкевіч.

**1966** — 50-ці годзьдзе „Нашай Нівы".

**1967** — 450 год беларускага друку й стагодзьдзе Канады.

**1967, красавік** — Заснаваньне Фонду 450-тых Угодкаў Беларускага Друку пры ЗБЖК.

**1967, чэрвень** — Чынны ўдзел ЗБК у Зьезьдзе Славян Канады.

**1967, 17 верасьня** — Акадэмія й адкрыцьцё Выстаўкі Старога Беларускага друку ў чэсьць д-ра Францішка Скарыны й 450-ых угодкаў беларускага друку.

**1967, 17 верасьня** — Заснаваньне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе.

**1967** — Адзначаньне розными імпрэзамі стагодзьдзя Канады.

**1967, сьнежань** — Акадэмія на 50-тыя ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу.

**1968 —** Залаты Юбілей Абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Яго адзначаем працай і сьвяткаваньнямі цэлы год.

**1968, люты** — Візыта Прэзыдэнта БНР М. Абрамчыка.

**1968, у кастрычніку й лістападзе** — урачыстасьці адзначэньня 20-ці годзьдзя ЗБК.

25-га Сакавіка, Дзень Герояў, Дзень Сьв. Кірылы Тураўскага й апошнімі гадамі Дзень Прадславы — Сьв. Еўфрасіньні Полацкай ЗБК адзначае кажны год.

Хай ЗБК жыве, расьце, мацнее! Хай творыць ступеньку ўвысь у разьвіцьці беларускага руху.

BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, ахвяры й падпіску просім прысылаць на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.



### ПРЫПЛЫЎ ІМІГРАЦЫІ Ў КАНАДУ

У сотым годзе Канады — 1967 прыехала 222.876 імігрантаў. Больш як палавіна гэтага ліку асела ў Антарыё. Распадзел па правінцыях выглядаў наступна: 116.850 асела ў Антарыё, 45.717 у Квібэку, 28.071 у стэповых правінцыях, 27.215 у Брытыйскай Калюмбіі, 4.859 у Атлянтыцкіх правінцыях і 164 у Юконе й Паўночна-Заходніх Тэрыторыях. З агульнага ліку — 64.601 (29%) прыехалі зь Вялікай Брытаніі й Ірляндыі. Іншыя большыя групы наступныя: зь Італіі — 30.055, із Задзіночаных Штатаў — 19.038, зь Нямеччыны — 11.779, з Грэцыі — 10.650, з Францыі — 10.122 і з Партугаліі — 9.500.

Імігранты з 1967 году павялічылі працоўную сілу Канады на 119.539 чалавек. „Канэдыен Сін"



### ЗАХОДНІЯ ПАЦЫФІСТЫЯ Ў МАСКВЕ

Нядаўна маладая Амэрыканка Вікі Ровэр і Ангелец Андру Папворт спрабавалі раздаваць лістоўкі на Пушкінскім пляцы ў Маскве з заклікам прыступіць да ўсякай магчымай мірнай акцыі, якая спрычынілася-б да забраньня савецкага войска, што акупуе Чэхаславаччыну. Выбралі час 6 гадз. вечару, калі ўсе варочаюцца з працы. Работнікі й работніцы бралі лістоўкі, аглядаючыся на ўсе бакі, і не пасьпелі прачытаць іх, як утварыўся натаўп. Зразумела, што ў савецкіх абставінах у натаўпе заўсёды знойдуцца падхалімы, якія скарыстаюць із сытуацыі, каб прыпадабацца ўладзе. Знайшлася жанчына, якая абазвала пацыфістых правакатарамі, а якісь ёмкі дзядзька навет спляжыў кулаком маладую Амэрыканку. Не прайшло й пяці мінут, як зьявіўся міліцыянэр, арыштаваў маладых прапагандыстых і завёў іх куды трэба. На другі дзень іх дэпартавалі ў Лёндан.

Адначасна пацыфістыя ў тэй-жа арганізацыі спрабавалі шчасьця ў Варшаве, Будапэшце й Софіі — з такім-жа вынікам. Арганізацыя гэтая называецца Інтэрнацыянальныя Рэзістанты Вайны.

# ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА

Увосень, 30 год таму, у Мюнхэне адбылася капітуляцыя Чэхаславаччыны й яе саюзьнікаў Англіі й Францыі перад нацыстаўскай Нямеччынай у справе прэтэнсіяў апошняй да Чэхаславаччыны. Каб унікнуць вайны, саюзьнікі аддалі Гітлеру Судэты й фактычна здалі на яго ласку й няласку лёс Чэхаславаччыны. Далейшы прабег трагэдыі Чэхаславаччыны й усёй Эўропы кажнаму ведамы.

Увосень сёлетняга году чэхаславацкая трагэдыя паўтарылася з тэй розьніцай толькі, што ў ролі агрэсара выступіла ня гітлераўская Нямеччына, а Савецкі Саюз. Аб нападзе на Чэхаславаччыну Савецкага Саюзу разам з чатырма сваімі сатэлітамі мы ўжо пісалі. Цяпер бачым, што, сьціснутая з усіх бакоў брутальнай ваеннай сілай Масквы, Чэхаславаччына змушаная была пагадзіцца фармальна на ўсе маскоўскія дамаганьні, мусіла скапітуляваць — таксама як скапітулявала ў 1938 г. перад Гітлерам.

У пачатку кастрычніка сёлета ў Маскве адбыліся перамовы паміж савецкай тройкай — Бражнёў, Касыгін, Палянскі з аднаго боку й чэхаславацкімі лідарамі — кіраўніком чэскай кампартыі Дубчэкам, прэм'ерам Чэрнікам і кіраўніком славацкай кампартыі Гусаком з другога боку. З камунікату гэтых перамоваў відаць, што гэта ня былі перамовы раўнапраўных бакоў, а перамовы агрэсара із сваёй ахвярай. Агрэсар дыктаваў свае дамаганьні, а ахвяра змушаная была іх прыняць.

Чэхаславацкі бок забавязаўся: 1. Узмоцніць змаганьне супраць „антысацыялістычных (незалежніцкіх, Ж.) сілаў". 2. Павялічыць мерапрыёмствы кантролю над ужо цэнзураванай прэсай. 3. Узмоцніць партыйныя й дзяржаўныя ворганы „. . . людзьмі адданымі марксізму-ленінізму і пралетарскаму інтэрнацыяналізму . . ." (сталіністымі, Ж.). Гэта тыповыя пункты, на якіх апіраецца савецкая дыктатура і ў вадхіляньні ад якіх Масква абвінавачвала чэхаславацкіх партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў ад пачатку лібэралізацыі.

Што да найважнейшай для Чэхаславаччыны справы, забраньня акупацыйнага войска — камунікат між іншага гаворыць толькі, што абодвы ўрады пачнуць перамовы ў гэтай справе й зробяць умову аб „часовым пастоі савецкіх і іхніх саюзьнікаў войскаў у Чэхаславаччыне", а што да рэшты гэтых войскаў, дык яны будуць выводзіцца з Чэхаславаччыны паступова, згодна з пасьляакупацыйным паразуменьнем, якое было зробленае ў Маскве. Такім чынам чэхаславацкія лідары змушаныя былі пагадзіцца з тым, што значная частка савецкага войска застанецца ў Чэхаславаччыне на даўжэйшы час, мо' й на стала, бо слова „часова" мае іншае значаньне ў савецкім слоўніку, чымся ўсюды. У 1956 г. пасьля здушэньня рэвалюцыі ў Вугоршчыне было пакінутае савецкае войска (100.000!) „часова", але прайшло ўжо 12 год, а Масква забіраць яго й ня думае. Згодна з савецка-чэхаславацкім камунікатам пакінутая таксама вольная рука Савецкаму Саюзу да рэшты паўміліённай арміі, ён забярэ яе тады, калі будзе хацець, і столькі, колькі будзе хацець.

Чэхаславацкія лідары змушаныя былі таксама прыабяцаць, што й далей будуць даваць эфэктыўную помач камуністычнаму Ветнаму ды дапамагаць паўстрымліваць „. . .імпэр'ялістычную агрэсію на Сярэднім Усходзе . . ." (Ізраэля, Ж.).

Столькі забавязаньняў узяў на сябе чэхаславацкі бок у часе нядаўніх перамоваў у Маскве. А якія-ж забавязаньні ўзяў на сябе другі бок перамоваў, Савецкі Саюз? — „Даць Чэхаславацкім таварышам усякую патрэбную ім помач пры правядзеньні нармалізацыі сытуацыі у (іхняй) краіне і партыі . . ." — інакш кажучы, Саветы забавязаліся даць помач чэхаславацкім лібэральным камуністым у зьнішчаньні іхнімі ўласнымі рукамі маладой свабоды, узьнятай імі-ж самімі ў часе лібэралізацыі.

А ў міжчасе чэхаславацкі прадстаўнік у Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў папрасіў усіх сяброў Асамблеі (пэўне-ж пад націскам Савецкага Саюзу), каб не парушалі справы акупацыі Чэхаславаччыны Савецкім Саюзам „дзеля дабра тэй-жа Чэхаславаччыны". Як беларуская прыказка кажа: „Б'юць і жаліцца не даюць!"

Так жорстка й цынічна расправляюцца савецкія „таварышы" з „братняй" камуністычнай Чэхаславаччынай за тое толькі, што яна пазволіла сабе на самастойны шлях дэмакратызацыі камунізму. Справа гэта цяжкая й трагічная. Добра ўсё-ж, што яна разыгрываецца на вачох усяго сьвету. Яна можа стацца паказной лекцыяй для ўсіх тых, што, не разабраўшыся ў істоце маскоўскага камунізму, так сьлепа верылі ў дабрадзействы Савецкага Саюзу.

Незалежна ад гэтага, увесь сьвет сочыць за падзеямі ў Чэхаславаччыне й задае пытаньні: на колькі капітуляцыя Чэхаславаччыны перад бальшавіцкай Масквой будзе падобная ў сваіх выніках да капітуляцыі яе ў 1938 г. перад Гітлерам? Ці й гэтым разам ненасытны агрэсар, заахвочаны лёгкімі перамогамі, не пакваліцца на далейшыя заваёвы? Ці ня будзе гэта пачаткам новага сусьветнага катаклізму?

Падставы да гэтых трывожных пытаньняў ачавідныя. Ведама, што бальшавіцкая Масква ніколі ня перастала лятуцець аб г. зв. сусьветнай рэвалюцыі пад сваёй гэгэмоніяй. Ведама, што яна бразгае аружжам пры кажнай магчымай нагодзе перад усімі, хто зь ёй не згаджаецца. Аднак даваць якіясь прарочыя адказы на гэтыя пытаньні было-б передчасным. Мы ня ведаем яшчэ, як паставяцца да капітуляцыі сваіх лідараў у Маскве Чэхі і Славакі, якія не скарыліся йшчэ перад маскоўскай дыктатурай. Мы ня ведаем, як зарэагуюць дэмакратычныя дзяржавы Захаду на новую, створаную савецкай агрэсіяй у Чэхаславаччыне, стратэгічную й палітычную сытуацыю, да разгляду якой прыступілі ўжо сябры НАТО. Але мы ведаем, што агрэсія ў Чэхаславаччыне шмат пагоршыла нутраную й вонкавую сытуацыю Савецкага Саюзу.

Жук



# НАВАТАРСТВА - НЯЎХІЛЬНАЯ ЗЬЯВА

Глянуўшы на рэпрадукцыю абраза Пікасса, што камтазыцыяй формаў, лініяў і колераў напамінаў выгляд жанчыны, адныя адварачваліся із словамі: не магу глядзець, другія гаварылі: Пікассо сам кажа, што ён экспэрымэнтуе, а трэйція: у паэзіі дык яшчэ пагаджаюся з наватарствам, але ў малярстве — не магу.

Ня раз хацелася адказаць на гэткія заўвагі й не адным сказам напрыклад першым: аб смаку не дыскутуюць, другім: Пікассо гэтаксама казаў, што кажны абраз мусіць выражаць зусім новы, дагэтуль не адкрыты аспэкт існасьці, якая ёсьць бязьмежная й апошняга слова ў малярстве не сказаў яшчэ ніхто й ня скажа, а трэйцім: прагрэс ня можа абыйсьціся без наватарства.

Глянем, хоць вельмі агульна й як найкарацей, але глыбей, каб кінуць трохі сьвятла на ірытуючае нас наватарства. Пачнем ад пачатку, але дзе ў акіяне пачатак?!

### МАСТАЦКІ ТВОР

Калі закранулі мы мастацкія творы паэзіі й малярства, дык перш за ўсё здэфінюем, што такое мастацкі твор. Мастацкі твор, гэта твор чалавека, які сьпярша паўстаў у думцы ці ў уяўленьні мастака, а пасьля быў выражаны ім у вадпаведнай форме або словамі, як у паэзіі, або хварбамі на плоскай паверхні, як у малярстве. Кажны мастацкі твор мае на мэце нешта сказаць, ды такім ці іншым спосабам узьдзейнічаць на чытача, ці гледача. Сіла ўзьдзейваньня на нас мастацкага твору залежыць ня толькі ад якасьці твору, але й ад нашай уражлівасьці, здольнасьці ўспрыйманьня, ды ад дасюлешніх нашых дазнаньняў.

Хоць і гаворыцца аб „мастацтве для мастацтва", дык навет і такое мае на мэце ня толькі самое мастацтва й самазадаваленьне мастака. Усё-ж калі паэта напіша верш, дык хоча, каб яго чыталі, калі мастак намалюе абраз, дык хоча, каб на яго (на абраз) глядзелі. Наагул мастак творыць для людзей, для грамадзкасьці й хоча, каб ягоныя творы былі для яго карыснымі, каб мець „спажыўцоў" ды „спонсараў", безь якіх разьвіцьцё мастацтва немагчымае.

На працягу вякоў мастацтва было й ёсьць на службе такіх ці іншых ідэалёгіяў, напрыклад, рэлігійных, нацыянальных, а сяньня й камэрцыі. Аднак такія ідэялёгіі мусяць мець за сабой падтрымку сільных дзяржаўных арганізацыяў, якія маглі-б „спансараваць" сваё мастацтва. Так, прыкладам, як доўга хрысьціянская ідэялёгія ня мела дзяржаўнай аховы, так доўга хрысьціянскае мастацтва — малярства, скульптура, музыка — зусім не разьвівалася. Толькі ад Канстантына Вялікага, які забясьпечыў хрысьціянству талеранцыю, даў дзяржаўную падтрымку ды адначасна перанёс сталіцу з

# БАПЦ — ТВОР РУК І ВОЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Можна сьмела цьвердзіць, што гісторыя Беларускай Царквы, ад самага яе заснаваньня ў канцы 10-га стагодзьдзя нашай эры, ішла па лініі амаль што дакладна паралельнай да агульна-палітычнай і культурна-асьветнай гісторыі нашага народу. Гэты паралелізм — рэч ня прыпадковая; у ім крыецца глыбейшы сэнс самога гістарычнага працэсу, у якім Царква заўсёды была магутным фактарам. У сьлед за старой і новая нашая гісторыя, пакульшто, ідзе тым самым паралельным шляхам.

Восень 1941-га году. Зьнішчальны гром вайны пракаціўся па шырокіх прасторах Беларусі і спыніўся на яе ўсходніх межах. Беларусы стараюцца выкарыстаць новую сытуацыю, новага акупанта, дзеля паправы свайго грамадзка-палітычнага й культурнага жыцьця. Царква ў нас тады займала становішча даслоўна „двузначнае" — вялікая яе частка ўжо пасьпела сьцьвердзіць сваю ляяльнасьць да Масквы, меншая — усё яшчэ глядзела на Варшаву, уважаючы сябе за частку даваеннае Польскае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы. Ляяльнасьці да свае роднае, слаўнае царкоўнае традыцыі, ізь сьвечкай не знайшоў-бы . . . Такое становішча не магло доўга трываць. Беларуская грамадзкасьць з усіх магчымых бакоў пачала дамагацца ад тагачаснага Япіскапату, зь Мітрапалітам Панцялеймонам на чале, афармленьня Аўтакефальнасьці Беларускай Царквы й поўнае яе незалежнасьці ад Масквы, як і ад Варшавы.

У ўмовах вайны цяжка было праводзіць праграму абнаўленьня й рэарганізацыі Царквы. Але, ня глядзячы на вялікія цяжкасьці, пэўныя ўдачы былі дасягнутыя: два Беларусы былі хіратанізаваныя ў япіскапы і ўрэшце, пасьля доўгіх ходаньняў, 30-га жніўня 1942 г. быў скліканы Ўсебеларускі Праваслаўны Сабор у сталіцы Беларусі, Менску. Сабор вельмі сур'ёзна падыйшоў да справы ўзнаўленьня Аўтакефаліі Беларускай Царквы, прыняў амальшто аднагалосна адпаведную пастанову, зацьвердзіў падрабязна апрацаваны статут новае Царквы і — на гэтым усё стала . . . Калі ўдзельнікі Сабору, Япіскапы, сьвятары й вернікі, разьехаліся зь Менску, неабходныя дзеля афармленьня Аўтакефаліі дакумэнты ня былі прадстаўленыя Мітрапаліту да подпісу, а падпісаваныя лісты ня былі высланыя Патрыярху Канстантынопальскаму, ані суседнім Цэрквам-Сёстрам. Япіскапат паказаў нам, што ёсьць розныя спосабы ігнараваньня і абыходжаньня волі народу. Надзеі грамадзкасьці на новавысьвечаных „сваіх" Япіскапаў нічым не апраўдаліся. Сваімі ўчынкамі ўсе яны ўжо тады пазбавіўшы былі сябе права навет звацца беларускімі Япіскапамі. Незадоўга паказалася, што ім на гэтым праве зусім не залежыла.

Вайна адгрымела сваё. Беларусь, стаптаная, скрываўленая, ізноў у ланцугох маскоўскай няволі. Тысячы яе сыноў і дачок раськіданыя па ўсім шырокім Божым сьвеце. На эміграцыі апынуўся й няшчасны наш Япіскапат. Дня 23-га лютага 1946 г. Сабор Япіскапаў Расейскай Зарубежнай Царквы разглядае просьбу Япіскапаў Беларускай Царквы аб іхным пераходзе „разам з духавенствам і пастваю" ў Зарубежную. Але гэтым разам Уладыкі, відаць, чагосьці ня ўлічылі. Іхны нягодны ўчынак, бязумоўна аблічаны на шкоду жыцьцёвым інтарэсам беларускага народу, выклікаў усеагульнае абурэньне нашай грамадзкасьці: пакорныя дасюль авечкі збунтаваліся . . . Пачаліся пратэсты і арганізаваная акцыя дзеля ўплыву на адыйшоўшых Япіскапаў.

Пасьля колькіх няўдалых спробаў перакананьня некаторых зь іх, каб адыйшлі ад Расейцаў ды ачолілі зусім новую арганізацыю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, праваслаўныя Беларусы былі змушаныя дамагацца сваіх правоў на рэвалюцыйнай дарозе — праз стварэньне зусім новай Герархіі пры дапамозе Сястры-Царквы Украінскай. Шлях гэты быў нятолькі радыкальны, але й зусім новы, а таму й вельмі складаны. Гэта й было прычынаю, чаму некаторыя пабаяліся ім пайсьці. Тым ня менш, уся патрыятычна настроеная частка беларускай эміграцыі, ня бачучы іншага выхаду з хаосу, які пагражаў нашаму рэлігійнаму жыцьцю, з энтузыязмам і ахвярна падтрымала ініцыятараў Сабору ў Канстанцы, дзе група беларускіх вернікаў і духавенства, на чале зь Япіскапам Сяргеем, У. А. П. Ц., запачаткавалі ўзнаўленьне зусім незалежнай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Сталася гэта роўна 20 гадоў таму назад, у нядзелю 5-га чырвеня 1948 г., у дзень сьв. Еўфрасіньні, слаўнае князёўны полацкае, Апякункі Беларускага Народу.

Такое радыкальнае ўзнаўленьне беларускай царкоўнай незалежнасьці застала нашых ворагаў у расплох. Яны былі перакананыя ў тым, што Беларусы будуць пакорна чакаць, пакуль Маці-Царква расейская (скуль яна толькі бралася такая, бо гістарычна наша Царква ведае толькі адну Царкву-Маці: Канстантынопальскую Патрыярхію) не прыпадніце ім у падарунку „заправдную кананічную" Аўтакефалію . . . Пачаліся моцныя напады на новую царкоўную арганізацыю як з боку старых Япіскапаў, так і ад „зарубежнікаў" — русафільскага адламу нашай эміграцыі, які пачаў быў тады афармляцца якраз на гэтай аснове. Але гэта ўжо не магло стрымаць бегу выпадкаў: зь хіратанізацыяй свайго першага Япіскапа, дня 19-га сьнежня 1949 г., справа аднаўленьня Беларускай Царквы пашла шпаркім тэмпам. У 1950-ым годзе арганізуюцца дзьве Япархіі Б. А. П. Ц. — адна на Амэрыку і адна на Аўстралію. (Эўрапейскія Парахвіі Б. А. П. Ц. належаць да Амэрыканскай Япархіі). Сёлета яны канчаюць восемнаццаты год пасьпяховай, хоць і ня лёгкай у вабставінах чужыны, дзейнасьці. Сяньня Царква наша займае вядучае месца ў жыцьці беларускай эміграцыі. Дзе ёсьць Парафія Б. А. П. Ц., там бурліць і разьвіваецца беларускае грамадзкае жыцьцё. Не сакрэт, што амаль усе парафіі не-аўтакефальнай юрысдыкцыі, арганізаваныя сярод беларускай эміграцыі, або канчальна перайшлі да чужынцаў, або вядуць сябе пасыўна, нічога беларускага сваім вернікам не даючы. У нашых Парафіях людзі выраблююца, рэлігійнасьць іхная павышаецца; разводы сярод іх вельмі рэдкае зьявішча, а амаль усе дзеці, народжаныя зь мяшаных сужэнстваў, хрысьцяцца ў сваёй роднай Царкве. Да нашай Царквы горнуцца й Беларусы іншых веравызнаньняў — мы іх трактуем, як сваіх сёстраў і братоў, якія ня хочуць загубіцца ў чужым моры. Так Царква становіцца агульна-беларускай установай, нашым супольным дасягненьнем. Ажно страх падумаць, што бы рабілі-б, калі-б у нас ня было свае Аўтакефальнае Царквы? А гэта ня цяжка сабе ўявіць: без яе мы й далей блудзілі-б па чужых панадворках — папіханыя, абсьмейваныя і выкарыстоўваныя дзеля антыбеларускіх мэтаў.

Сяньняшняя Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква гэта твор рук і волі беларускай, на які Бог Вялікі паслаў Ласку Сваю. Ня ёсьць яна яшчэ дасканалай, на гэта спатрэбіцца нямала высілкаў і ахвярнасьці, але ўсе мы бачым і цешымся з таго, што яна ёсьць на добрай дарозе — на дарозе справядлівага служэньня Богу й сваіму няшчаснаму народу. За такую Царкву ўсе мы глыбока ўдзячныя Хрысту-Спасу нашаму і Яго Найсьвяцейшай Маці, Дзеве Марыі.

А што нашы малітвы-просьбы даходзяць туды, куды трэба, доказаў не даводзіцца далёка шукаць: 20 год таму назад мы пачыналі скромна з адным усяго Герархам; сёлета мы сьвяткавалі наш шчасьлівы юбілей ужо з чатырма. Укаранаваньне нашай Аўтакефаліі выбарам свайго Мітрапаліта — адно пытаньне часу. Так, відаць, нечым мы ўдастоіліся перад абліччам Усявышняга. Бо толькі зь Яго волі нязломнае маглі мы дасягнуць такіх выдатных вынікаў супраць усіх зьнішчальных сілаў. Будзем-жа прасіць, каб Ён памагаў і далей у гэтай нашай сьвятой справе.

**П. і В. Вернікі**

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ СПАДАР РЭДАКТАР!**

Ветліва прашу Вас зьмясьціць у „Беларусе" гэты мой ліст, мэтаю якога — скарыгаваньне недакладных інфармацыяў у артыкуле „20 гадоў БАПЦ — 1948 — 1968", надрукаваным у № 134 „Беларуса".

У артыкуле падаецца няправільна прозьвішча мітрапаліта Панцялеймана — Ражанскі, замік правільнага — Павал Ражноўскі, ды месца нараджэньня — Полаччына, тымчасам як ён нарадзіўся ў горадзе Кастрама 21 кастр. 1867 г. Ягоны бацька — Паляк, матка — Расейка — Каровіна („Мат. да гіст. Бел. Прав. Царквы", бач. 29, Магістар А. М.).

Далей у артыкуле напісана: „Калі аб гэтай здрадзе стала ведама, зараз-жа, 5 травеня Царкоўны Камітэт у Рэгенсбургу, а. Мікалай Лапіцкі й вернікі склікалі зьезд герархаў, духавенства й міран". Мэта скліканьня Першага Зьезду Праваслаўных Беларусаў у Рэгенсбургу 5 травеня 1946 г. была іншая, а тым асобам, што склікалі гэты Зьезд, яшчэ ня была ведамая здрада япіскапаў БАПЦ. Таму ў часе Зьезду, „пасьля таго, як быў прачытаны і ўвасначным прыняты праект статуту Бел. Праваслаўнага Аб'еднаньня, Зьезд прыступіў да выбараў ураду БПА. Першымі былі высунутыя кандыдатуры арх. Філафея й яп. Апанаса, але яны рашуча адмовіліся ўвайсьці ў урад БПА" („Зьвіняць званы сьв. Сафіі", № 4, 1946).

У часе дыскусіі, якая ўзьнікла ў залі, у сувязі зь іхнай адмовай, я, як выконваючы абавязкі старшыні Беларускага Цэнтральнага Дапамогавага Камітэту, прачытаў удзельнікам Зьезду зь „Летапісу Расейскай Зарубежнай Царквы" аб тым, што япіскапы Украінскай Аўтаномнай і Беларускай Аўтакефальнай цэркваў склалі просьбы Сыноду Расейскай Зарубежнай Царквы аб прыняцьці іх разам зь вернікамі ў гэтую царкву.

Гэтая вестка выклікала моцную рэакцыю Зьезду. Сп. І. Касяк, узяўшы слова, папрасіў прысутных япіскапаў дакладна выясьніць гэтую справу, цьвердзячы, што ад гэтага выясьненьня будуць залежыць далейшыя нарады й пастановы Зьезду. Запанавала цішыня: усе прысутныя ў залі чакалі зь вялікім зацікаўленьнем, што скажуць япіскапы Беларусы.

Япіскапы цілкам паразумеліся міжсобку, і арх. Філафей, узяўшы слова, сьцьвердзіў праўдзівасьць прачытанага ўрыўку, пры чым падаў і прычыну просьбы пра далучэньне: неабходнасьць БАПЦ мець малітоўную сувязь. А дзеля гэтага, — выясьніў ён, — яны часова маюць увайсьці ў склад Расейскай Зарубежнай Царквы аж да часу кананічнага афармленьня аўтакефаліі Беларускае Царквы.

На Другім Зьезьдзе Праваслаўных Беларусаў 19 верасьня 1946 г. выбараў да ўраду БПА ня было. Арх. Банадыкт сваёю ўладаю разьвязаў выбраны на Першым Зьездзе ўрад Беларускага Праваслаўнага Аб'еднаньня і назначыў іхнім старшынём арх. Філафея, які дабраў сабе сябраў новага ўраду БПА з прысутных сьвятароў Лапіцкага, Пястуна (Расеец), Грынкевіча, Жарскага, Смірнова й пары сьвецкіх асобаў.

**Лёс Анджэлес,**
**10 верасьня 1968.**

**А. Вініцкі**

## ШЧЫРА ВІТАЕМ!

**ведамага беларускага царкоўнага й грамадзкага дзеяча, вялікага прыяцеля нашае газэты, настаяцеля БАПЦарквы ў Вялікай Брытаніі а. Янку Абабурку зь 5-мі ўгодкамі Ягонага сьвятарства, якія спаўняюцца 13 кастрычніка сёлета, ды ад усяе душы жадаем Яму добрага здароўя, сілаў і вытрываласьці ў далейшай працы на беларускай ніве.**

## ВІТАЕМ ТАКСАМА

**Спадарства Аляксандру й Янку Чарнэцкага ў Чыкага зь іхным Залатым Юбілеем Шлюбу, які Яны адзначаюць у нядзелю 20 кастрычніка, ды ад шчырага сэрца зычым Ім усякае памыснасьці, добрага здароўя й даўгога жыцьця. Спадару Янку Чарнэцкаму, заўсёды дзейнаму ў беларускім нацыянальным руху як на Бацькаўшчыне, гэтак і на чужыне, ды вялікаму прыяцелю нашае газэты, жадаем з гэтае нагоды далейшае плённае працы на беларускай ніве.**

## АГУЛЬНЫ СХОД АДДЗЕЛУ ЗБВБ У БРАДФАРДЗЕ

У нядзелю 15 верасьня ў Беларускім Грамадзкім Доме ў Брадфардзе адбыўся агульны гадавы справаздачна-перавыбарны сход сяброў Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ў Брадфардзе. Адчыніў сход і прывітаў прысутных старшыня ўступаючай управы Аддзелу сп. Янка Калбаса.

Праслухаўшы справаздачу й усебакова прадыскутаваўшы яе, прысутныя выказаліся, што праца ўправы на працягу ейнай кадэнцыі была плённая, зашто было прызнанае ёй абсалюторыюм з найшчырэйшай падзякаю. Як наступны довад даверу й прызнаньня для дасюлешняй управы, была пастанова сходу, каб старая ўправа і далей прадаўжала сваю дзейнасьць ды рэпрэзэнтавала Аддзел і на год наступны. Пэрсанальна склад управы Аддзелу на наступную кадэнцыю прадстаўляецца гэтак: сп. Янка Калбаса — старшыня, сп. Станіслаў Мак — сакратар, сп. Аляксандра Калько — скарбнік, сп. Хвёдар Лемяшонак — адміністратар БД, сп. Аляксандра Сосна — сябра ўправы.

На заканчэньне сходу сп. Янка Калбаса падзякаваў прысутным сябром за іхную дзейнасьць ды запэўніў іх, што Беларусы ў Вольным Сьвеце будуць наважана змагацца за поўнае зьдзейсьненьне высокага нацыянальнага ідэалу Акту 25 Сакавіка.

Пасьля зачыненьня афіцыйнай часткі сходу, пры стале зь він і закускай прысутныя дзяліліся думкамі што да далейшае нацыянальнае дзейнасьці нашае арганізацыі.

**Янка Крушына**

Рыму ў жывейшую тады цывілізацыйна Бізанцыю (330), хрысьціянскае мастацтва атрымала магчымасьці разьвіцьця. Паступова стала развівацца бізантыйскае мастацтва. На захадзе Эўропы гэткая магчымасьць зьявілася толькі пасьля 800-га году, калі Кароль Вялікі быў каранаваны ў Рыме, як галава Сьвятой Рымскай Імпэрыі.

І беларускі народ, хоць выдаў зь сябе нямала вялікіх мастакоў і геніяў, прыкладам, Дастаеўскі, Глінка, Міцкевіч, Манюшка ды ці мала іншых, але ня маючы ў той час свае дзяржаўнасьці, ня мог „спансараваць" свайго нацыянальнага мастацтва. Нашыя геніі, сілаю абставінаў, панесьлі сваё творства на службу чужых ідэялёгіяў, чужых „спонсараў". Імі былі Масква й Польшча. Напрошваецца пытаньне, а цяпер у БССР існуе поўная магчымасьць для разьвіцьця беларускага нацыянальнага мастацтва? Не, БССР ня ёсьць незалежнай дзяржавай, а калёніяй Масквы, і, як такая, не дае ні толькі падтрымкі, але й талеранцыі беларускай нацыянальнай ідэолёгіі, а раз так, якая можа быць гутарка аб свабодным разьвіцьці беларускага нацыянальнага мастацтва? Наадварот, БССР намагаецца яго папаліжаваць праз русыфікацыю й хвальшаваньне гісторыі Беларусі.

Калі мастацтва залежыць ад палітычных ды іншых абставінаў, калі яно служыць і ўзбагачае сабой хрысьціянскую й нацыянальную культуры, дык яно ёсьць зьвязанае з часам, з эпохай і ёсьць неразьдзельнай часткай культуры й цывілізацыі.

Выснаў: мастацтва, а ў тым ліку й малярства, прапагуе нейкую ідэалёгію ці сьветагляд, дзя свайго разьвіцьця мусіць мець адпаведныя абставіны — „спонсара" ў відзе дзяржаўнай арганізацыі й ёсьць часткай цывілізацыйнага працэсу.

## УСКАЛЫХІ МАЯТНІКА — ПЭРЫЯДЫ МАЛЯРСТВА

Гісторыкі й крытыкі мастацтва ўважаюць, што разьвіцьцё малярства адбываецца не па простай прагрэсыўнай лініі, а па лініі й кірунку ўскалыхаў маятніка. Адзін поўны ўсколых адзначае адзін пэрыяд. І так грэцка-рымскі пэрыяд — адзін узмах маятніка — быў пэрыядам рэалістычнага малярства й скульптуры. Адказвае ён паганскаму сьветагляду выслаўляньня людзкога цела, на падабенства якога Грэкі й Рымляне й тварылі сваіх багоў. Калі паганскі сьветагляд збанкрутаваў, упала й ягонае мастацтва.

Закончыўшы свой узмах, маятнік затрымаўся на часіну (некалькі стагодзьдзяў), каб распачаць новы ўзмах у кірунку сымбалістычнага бізантыйскага малярства. Яно прапагавала сярэднявечны хрысьціянскі сьветагляд узвышшаньня душы й адхіленьня ад цела й зямнога жыцьця — асцэтызм. Таму й бізантыйскае малярства ня ёсьць рэалістычным, а сымбалістычным. У гэтым пэрыядзе, што трываў 8 стагодзьдзяў, сьвятых малявалі не як вобразы людзей, а як сымбалі душы й боства. Сымбалі сваім відам толькі напаміналі формы людзей (іконы).

Падобна й Пікассо ў пазьнейшых сваіх творах малюе ня вобразы, а сымбалі людзей. Спосаб маляваньня, зь якім нам цяпер цяжка пагадзіцца. А было-ж, што людзі праз 8 стагодзьдзяў ня толькі гадзіліся з ім, але й лічылі яго адзіным магчымым спосабам.

На пачатку 13-га стагодзьдзя сьв. Францішак з Асізу сваім новым разуменьнем хрысьціянства й сваёй навукай, што Бога хваліць трэба не асцэтызмам, а ўцехай з жыцьця на зямлі, без занядбоўваньня аднак душы, збалянсаваў значэньне душы й цела й згуманізаваў сярэднявечны хрысьціянскі сьветагляд. Пачаўся гуманізм.

Новыя плыні мусілі адбіцца й у малярстве. Аднак для прагрэсу мала толькі новых ідэяў, патрэбны таксама й чалавек-геній зь сільнай візіяй, якая яму выявіла-б спосаб, як выразіць новы сьветагляд у малярстве. Ды ня толькі выразіць, а й прапагаваць яго! Гэтым геніем быў таксама Італьянец. Ён запачаткаваў новы пэрыяд, новы ўзмах маятніка ў кірунку ізноў рэалістычнага малярства. Ён стаў малявац сьвятых ня сымбалямі, як ягоныя папярэднікі й сучасьнікі, а вобразамі жывых людзей. Джотто, кажуць крытыкі, быў **найбольшым наватарам** на працягу ўсяе гісторыі малярства. Сучасныя Джотту напэўна былі ня менш заскочаныя ягоным наватарствам, як мы сяньня наватарствам Пікасса. Толькі Джотто меў за сабой заплечча аўтарытэту сьвятога — Францішка з Асізу, чаго ня мае Пікассо. І Джотто таксама „экспэрымэнтаваў". Ягоныя пазьнейшыя фрэскі ў Капліцы Арэна ў Падуі выяўляюць значнае розьвіцьцё ў параўнаньні з ранейшымі фрэскамі ў Асізы, кажа д-р. Каміль'е Сэмэнцатао.

Запачаткаваны Джоттам пэрыяд рэалістычнага малярства разьвіваўся прымаючы розныя формы на працягу 6-ці стагодзьдзяў, амаль да нашых часоў. (1300 — 1900), да Сэзана. Ад Сэзана маятнік пачаў новы ўсколых ад рэалістычнага кірунку, назад да фармалістычнага абстрактнага малярства. Што сталася, чаму? Мы так палюбілі абразы з апошняга рэалістычнага пэрыяду, пашто ўводзіць зьмены?!

Век 20-ты ёсьць векам пераломаў, векам шалёных прагрэсаў, атамнае й вадароднае бомбы, векам пэніцыліны й трансплянтацыяў, палётаў у міжплянэтныя прасторы, векам карkаломных новых ідэяў. Малярства, што мусіць адбіваць эпоху, пры ўсіх гэтых зьменах мусіла зьмяніць свой характар і ход. Мала таго, на думку А. Гоксьлея, гэніі малярства сваёй візіяй і творствам абвяшчаюць прыход новых ідэяў і творства розуму. Тут Гоксьлей меў на думцы Пікасса.

Сэзан малюе гару ня так, як яе бачыць, а як разумее „гару наагул". Прадстаўляе яе, як рытмічна згарманізаваны камплекс геамэтрычных фігураў. У гледача абраз не пабуджае ўяўленьня ці пачуцьця, ён прымушае яго думаць, разважаць над канструкцыяй, сачыць і цешыцца рытмікай ліній, кампазыцыяй геамэтрычных формаў. Геамэтрычнымі фігурамі малюе Пікассо й дзяўчынку з паднятай рукой. Хоць вобраз не моцна здэфармаваны, аднак нельга не адчуць мяккасьці руху й грацыі дзяўчынкі. Сяньняшнія мастакі не зацікаўленыя ў дакладным перадаваньні бачанай рэчаіснасьці. Дый няма ўжо такой патрэбы. Фатаграфічны апарат гэта робіць дасканала! А калі ходзіць пра дэфармацыі, дык бізантыйскія іканапісцы дапускаліся „такой дэфармацыі, аб якой Пікассу навет і ня сьнілася" — піша нейдзе ў 1955 годзе Эрык Ньютан. Праўда, што ад таго часу Пікассо мог дагнаць і перагнаць сярэднявечных іканапісцаў, але ня ў гэтым справа. Справа ў тым, што наватарства Джотта, Пікасса, ці каго іншага ня ёсьць выдумкай гэтых людзей, а заканамерным вынікам прагрэсу культуры й цывілізацыі.

Нам вольна холадам і абыякавасьцяй абыходзіць сяньняшняе наватарства ў малярстве, нам вольна ня любіць яго, але нам таксама няма іншага выхаду, як толькі пагадзіцца з ім, як нармальным і няўхільным зьявішчам. Час будзе прыносіць зьмены. Малады кірунак сяньняшняга малярства будзе расьці й разьвівацца. Пройдуць мо стагодзьдзі, пакуль ён набярэ болей выразнага й, як хочацца, болей шляхотнага абліччу. У міжчасе будзем за ім сачыць, да яго прывыкаць, болей яго разумець, а мо' й . . . любіць.

**Р. Ж.-Г.**

